# ВЕСЬНІК
## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## і
## САВЕТУ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ
## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫАЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК.

---

ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ
РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ
САЮЗУ ССР.

№ 3.

АРТЫКУЛЫ 53—79.

---

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР.
Масква ◇ 1923 ◇ Крэмль.

# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

## РАДЫ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
і
## РАДЫ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК



## ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ
РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ
САЮЗУ ССР

№ 3.

АРТЫКУЛЫ
53—79.

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР
Масква ⋄ 1923 ⋄ Крэмль.

# ЗЬМЕСТ.

# ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ

## ПРЭЗЫДЫУМУ

# Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту

## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**53.** **Аб ратыфікацыі почт-тэлеграфнае канвэнцыі паміж РСФСР, ЗСФСР і Турэччынаю.**

Ратыфікаваць почт-тэлеграфную канвэнцыю, заключоную паміж РСФСР, ЗСФСР і Турэччынаю 9-га ліпеня 1922 году.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

27 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**54.** **Аб дзяржаўных падрадах і дастаўках.**

У адмену палажэньня аб дзяржаўных падрадах і дастаўках ад 30 верасьня 1921 г. з перайначэньнямі ад 4 ліпеня 1922 г. (дабавак 5 да грамядзянскага кодэксу РСФСР) і дэкрэту СНК ад 4 кастрычніка 1921 г. аб парадку прымусу падрадчыкаў і дастаўнікаў да выкананьня абавязкаў (заданьняў), узлагаемых на іх дзяржаўнымі органамі (З. У. 1921 г., арт. 529), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

РАЗЬДЗЕЛ I.

1. Аддача падрадаў і даставак дзяржаўнымі установамі і прадпрыемствамі, у тым ліку і працуючымі на падставах камэрчэскага памеркаваньня, у суме звыш 10.000 рублеў золатам робіцца абавязкова з публічных таргоў, аб дню і ўмовах якіх загадзьдзя публікуецца дзеля агульнае веды. Парадак публічных таргоў устанаўліваецца асобнаю інструкцыяю СНК.

Увага 1. У выпадку стыхійных бядотаў дзяржаўныя органы, якія аддаюць падрады і дастаўкі дзеля барацьбы з гэтымі бядотамі, могуць рабіць суналежныя умовы і без таргоў.

Увага 2. Аддача падрадаў і даставак бяз публічных таргоў дзеля дзяржаўных органаў, не знаходзячыхся на дзяржаўным бюджэту, дазваляецца выключна у тых выпадках, калі апэрацыя падраду і дастаўкі ўваходзяць у веданьне іх апаратыўнай вытворчай або камэрцыйнай дзейльнасьці.

Увага 3. Падрады і дастаўкі паміж дзяржаўнымі органамі робяцца без таргоў.

2. Умовы на суму у 100.000 рублёў у залатым вылічэньні падлягаюць зацьверджаньню суналежнага наркому, а умовы, рабімыя органамі, якія знаходзяцца на мясцовым бюджэту,—зацьверджаньню прэзыдыуму суналежнага губэрс. выканаўч. камітэту.

Увага 1. Наркомам даецца права устаноўліваць у інструкцыйным парадку абавязковасьць падачы пад'уладнымі ім органамі умоваў на суму 100.000 рублёў золатам і ніжэй на зацьверджаньне тых або іншых органаў гэтага ведамству. Такое самае права у адносінах органаў, якія знаходзяцца на мясцовым бюджэту, даецца губэрс. выкан. камітэтам.

Увага 2. Правіла гэтага артыкулу не распаўсюджваецца на дзяржаўныя трэсты і сіндыкаты, праўленьні чыгунак і параходцтваў, паколькі іншае не прадугадана іх статутамі або інструкцыямі падлеглага наркамату.

3. У умовах, падлеглых зацьверджаньню, згодна папярэдняга артыкулу, абавязкова павінен быць паказан тэрмін, патрэбны дзеля адтрыманьня зацьверджаньня, у працягу якога тэрміну падрадчык (дастаўнік) ня мае права адмовіцца ад прынятых ім умоваў дагавору або вымагаць іх пераіначаньня. У выпадку неадтрыманьня паведамленьня аб зацьверджаньні або незацьверджаньні дагавору у паказаны тэрмін дагавор лічыцца ўступіўшым у моц.

---

## РАЗЬДЗЕЛ II.

**Адносіны паміж дзяржаўным органам, здаючым падрад (дастаўку), і падрадчыкам (дастаўнікам).**

4. Па дагавору падраду, падрадчык абавязуецца на свой страх і рызыку выканаць прызначанныя абавязкі (заданьні) дзяржаўнае установы або прадпрыемства (узьвядзеньне, рамонт пабудовак, загатоўка дроў, перавозка і г. д.); апошняе ж абавязуецца даць прызначаную нагароду за выкананныя абавязкі (заданьні).

5. Па дагавору дастаўкі, дастаўнік (прадавец) абавязуецца даставіць дзяржаве да прызначанага тэрміну вядомую колькасьць рэчаў (тавараў), прызначаных радавымі знакамі, а дзяржава, абавязуецца заплаціць умоўленую цану грашамі або натураю.

Увага. На зьдзелкі куплі-прадажы, не падлеглыя пад паняцьце дастаўкі, дадзенае у гэтым артыкулу, правілы гэтага палажэньня не распаўсюджваюцца.

6. Адносіны паміж дзяржаўным органам, здаючым падрад (дастаўку), і падрадчыкам (дастаўнікам) рэгулююцца агульнымі пастановамі грамадзянскага кодэксу РСФСР, паміж іншым падз. VII-м разьдзелу аб абавязуючым праву (падрад) і суналежнымі артыкуламі падз. IV таго ж разьдзелу (купля-прадажа) з ніжэй паказанымі адступленьнямі.

7. У выпадку нявыплаты у тэрмін рабочым запрацаванае імі вынаграды з боку падрадчыка, орган, здаючы падрад, мае права здаволіць рабочых, пры бязспрэчнасьці іх вымаганьня з сумаў, належачых да выдачы падрадчыку.

8. Перасьцярога, прадугаданая арт. 223 грамадзянскага кодэксу, павінна быць заяўлена падрадчыкам на паперы органу, здаўшаму падрад, які абавязан назначыць камісію дзеля праверкі заявы.

9. Прызначаньне вынаграды, належачай падрадчыку, у форме процэнтнага налічэньня на страты, зробленыя падрадчыкам па выкананьню працы, забараняецца пад пагрозаю скасаваньня дагавору.

10. З няспраўнага падрадчыка або дастаўніка орган дзяржавы ўзысківае адначасна убыткі і умоўленую няўстойку.

11. Установа або прадпрыемства, здаўшая падрад (дастаўку), можа авансыраваць падрадчыка (дастаўніка) умоўленымі у дагавору сумамі ў суналежнасьці з аргапізацыйнымі падгатоўчымі расходамі, напэўна патрэбнымі дзеля выкананьня дагавору падраду (дастаўкі), але ня звыш 25% каштоўнасьці дагавору.

Увага. Калі падрадчыкамі (дастаўнікамі) зьяўляюцца дзяржаўныя установы або прадпрыемствы, зьмешаныя акцыонэрныя таварыствы, а роўна ўсерасейскія і краінныя кооператыўныя аб'яднаньні, дзяржорган, здаючы падрад (дастаўку), мае права павялічываць суму выдаваемага авансу за межы 25% дагавору, з тым, каб сума авансу, перавышаючая 25%, была поўнасьцю забясьпечана залогам.

---

## РАЗЬДЗЕЛ III.

**Парадак прыёму выкананьня па дагаворам падрадаў і даставак.**

12. Пры прыёму выкананьня па дагаворам падрадаў (даставак) дзяржаўныя установы і прадпрыемствы абавязаны складаць падрабязны прыёмачны акт. Апошні датыруецца днем закончэньня прыёму (выкананьне па дагавору) і копія яго зараз жа перадаецца падрадчыку (дастаўніку).

---

## РАЗЬДЗЕЛ IV.

**Забяспечаньне выкананьня дагавору падрадчыкам (дастаўнікам).**

13. У забяспечаньне падрадаў і даставак падрадчыкі і дастаўнікі павінны ўнасіць залог, у ліку ня меньш 10% каштоўнасьці дагавору. Залог можа быць аддадзен як самым контр-агентам па дагавору падраду або дастаўкі, так і іншымі асобамі.

Увага. Ад аддачы залогу могуць быць звальняемы, за выключэньнем выпадку, прадугаданага увагай да артыкулу 2-а, дзяржаўныя установы або прадпрыемствы, зьмешаныя акцыонэрныя таварыствы, а таксама ўсерасейскія і краінныя копэратыўныя аб'яднаньні, выступаючыя у якасьці падрадчыкаў (дастаўнікаў).

14. Прэтэнзіі дзяржавы, выходзячыя з дагавораў, здавальняюцца з маемасьці падрадчыка (дастаўніка) пераважна перад усімі даўгамі яго, за выключэньнем нядоімак па дзяржаўным падаткам і зборам і задоўжанасьці па заробачнай плаце рабочым і служачым.

15. У дагавор дзяржаўнага падраду (дастаўкі) пад пагрозаю скасаваньня яго павінна ўключацца умова аб няўстойцы, як на выпадак прастрочкі, так і на выпадак нявыкананьня дагавору падрадчыкам (дастаўнікам). Вялічыня няўстойкі за невыкананьне дагавору ня можа быць ніжэй 10% сумы дагавору.

---

Прапанаваць НКШЗ усе, якія есьць у яго папраўкі і дадаткі да гэтага палажэньня, унясьці у СНК Саюзу ССР дзеля памеркаваньня па істоце.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР.* **Н. Нарыманаў.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР.* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР.* **А. Енукідзе.**

27 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 55. Аб пераінačэньні разрадаў абкладаньня прыбыткова-па-маентным падаткам.

У пераіначаньне зацьверджанага 16 лістападу 1922 году палажэньня аб дзяржаўным прыбыткова-па-маентным падатку (З. У. 1922 году, арт. 940), пастановы ЎЦВК і СНК ад 23 лістападу 1922 году аб увядзеньні у дзейнасьць памянёнага палажэньня (З. У. 1922 году, арт. 981) і пастановы ЎЦВК і СНК ад 15 лютага 1923 году аб пераіначэньні вялічыні долі прыбыткова-

па-маентным падатку (З. У. 1923 году, арт. 188) ЦВК і СНК Саюзу ССР **постанаўляюць**:

1. Выкласьці арт. 7 палажэньня аб дзяржаўным прыбыткова-па-маентным падатку у наступнай пераінаначанай рэдакцыі:

«7. Аклад падатку, належачага з кожнага плацельшчыка пасьля злучэньня усіх яго прыбыткаў, вылічаны у залатых рублях, прызначаецца у наступнай шкале:

| Разрады. | Паўгадовая сума прыбыткаў у залатых рублях. | Аклад у залатых рублях. |
|---|---|---|
| 1 | звыш 150 да 200 . . . . . . . | 2 |
| 2 | „ 200 „ 250 . . . . . . . | $3^1/_2$ |
| 3 | „ 250 „ 325 . . . . . . . | 5 |
| 4 | „ 325 „ 400 . . . . . . . | 8 |
| 5 | „ 400 „ 500 . . . . . . . | 11 |
| 6 | „ 500 „ 650 . . . . . . . | 15 |
| 7 | „ 650 „ 800 . . . . . . . | 21 |
| 8 | „ 800 „ 1000 . . . . . . . | 31 |
| 9 | „ 1000 „ 1250 . . . . . . . | 45 |
| 10 | „ 1250 „ 1600 . . . . . . . | 70 |
| 11 | „ 1600 „ 2000 . . . . . . . | 105 |
| 12 | „ 2000 „ 2500 . . . . . . . | 155 |
| 13 | „ 2500 „ 3000 . . . . . . . | 230 |
| 14 | „ 3000 „ 3500 . . . . . . . | 315 |
| 15 | „ 3500 „ 4000 . . . . . . . | 415 |
| 16 | „ 4000 . . . . . . . | 480 |
| | плюс 60 рублёў на кожныя 500 р. звыш 4000 р. | |

2. Арт. 9 палажэньня аб дзяржаўным прыбыткова-па-маентным падатку перайначыць наступным чынам:

«9. Неабкладываемы мінімум каштоўнасьці, памянёнае у артыкулу 8-м маемасьці на кожнага плацельшчыка і члена яго сям'і, разам з ім пражываючага і нямаючага свайго прыбытку, устаноўліваецца на кожнае паўгодзьдзе у заканадаўчым парадку. з маемасьці, у той яе часцы каштоўносьці, якая перавышае памянёны мінімум, вылічываецца падатак у наступнай шкале:

| Разрад. | Абкладываемая каштоўнасьць маемасьці у залатых рублях. | Аклад у залатых рублях. |
|---|---|---|
| 1 | — 500 . . . . . . . | 1,5 |
| 2 | звыш 500 да 750 . . . . . . . | 2 |
| 3 | „ 750 „ 1000 . . . . . . . | 3,5 |
| 4 | „ 1000 „ 1500 . . . . . . . | 7 |
| 5 | „ 1500 „ 2000 . . . . . . . | 11 |
| 6 | „ 2000 „ 2500 . . . . . . . | 15 |
| 7 | „ 2500 „ 3000 . . . . . . . | 20 |
| 8 | „ 3000 „ 4000 . . . . . . . | 30 |
| 9 | „ 4000 „ 5000 . . . . . . . | 44 |
| 10 | „ 5000 „ . . . . . . . | 60 |
| | плюс 60 руб. на кожныя 500 руб. звыш 5000 руб. | |

3. Устанавіць на акладное паўгодзьдзе з 1 красавіка па 30 верасьня 1923 году, неабкладываемы мінімум прыбытку за папярэдняе паўгодзьдзе, прадугаданы арт. 5 палажэньня аб дзяржаўным прыбыткова-па-маентным падатку у ліку (у залатых рублях): дзеля сталіц і местаў першага поясу па прамысловаму падатку—250 рублёў і дзеля іншых мясцовасьцяў—150 рублёў.

4. Устанавіць неабкладываемы мінімум каштоўнасьці маемасьці, прадугаданы арт. 9-ым палажэньня аб дзяржаўным прыбыткова-па-маентным падатку, на акладное паўгодзьдзе з 1 красавіка па 30 верасьня 1923 году у ліку 150 руб. золатам.

**5**. Даручыць НКФіну апублікаваць курсы котыравальнае камісіі, па якім павінна вясьціся пералічэньне сумаў прыбыткаў і каштоўнасьці маемасьці у залатых рублях і прызначацца у савецкай грашовай адзінцы вялічыня акладаў.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

27 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 56. Аб асобным збору з вывожваемых за кардон хлеба-фуражных прадуктаў.

ЦВК і СНК Саюзу ССР **пастанаўляюць**:

**1**. Дзеля папаўненьня стратаў, зьвязаных з папраўкаю пад'ездаў да партоў, праз якія вывозяцца хлеба-фуражныя прадукты, з вывожваемых з межаў Саюзу ССР за кардон хлеба-фуражных прадуктаў сыскваецца асобны збор у наступнай вялічыні, па разьліку з пуда брутто:

а) з кукурузы, аўсу, ячменю і вотрубей—1 кап. золатам.

б) з усіх іншых хлеба-фуражных прадуктаў—3 кап. золатам.

**2**) Устаноўлены арт. 1-м збор, вылічаны ў залатой валюце, сыскваецца:

а) у расейскай залатой валюце у банкнотах;

б) у чужаземнай залатой валюце па падаваеннаму парытэту.

в) у чужаземных банкнотах або бумажных грашах праз пералічэньне належачай сумы залатых рублёў у долары Паўночна-Амэрыканскіх Злучоных Штатаў, а долары у суналежную бумажную валюту,

г) у савецкіх грашовых знаках па курсу, які устанаўліваецца на мытніцах дзеля збору пошлін.

**3**. Памянёны у арт. 1-м збор сыскваецца мытнымі установамі, прапускаючымі хлеба-фуражныя прадукты за кардон, і йдзе у карысьць казны па каштарысу НКФ.

**4**. НКФ, па згодзе з НКВГ, даручаецца выдаць інструкцыю аб ужываньні гэтае пастановы, прадугадаўшы асобны парадак дзеля прадуктаў, вывожваемых дзяржаўнымі установамі, знаходзячыміся на дзяржаўным бюджэту.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

27-га ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 57. Аб акцызу на сьпірт, які йдзе на вырабатку воцату.

ЦВК і СНК Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Устанавіць вялічыню акцызу на сыры сьпірт, які йдзе на вырабатку воцату на воцатавых заводах і у завядзеньнях па тры капейкі з градуса золатам.

2. Даручыць СПА у тэрміны, ім назначаныя, вылічваць устаноўленую арт. 1-м гэтае пастановы вялічыню акцызу у грашах 1923 г. суналежна ад перамены курсу рубля.

3. НКФ даручаецца, па згодзе з ВСНГ, устанавіць правілы, як адпускаць сыры сьпірт са зьніжаным акцызам на воцатавую вырабатку.

4. Тэрміны, у якія уводзіцца у дзейнасьць гэтая пастанова у розных мясцовасьцях, назначае НКФ і апублікоўвае у «Известиях ЦИК Союза ССР и ВЦИК».

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Нам. старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

27 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 58. Аб адлічваньні у мясцовыя сродкі 25% прыбытковых паступленьняў ад аддачы у арэнду дзяржаўных зямельных маемасьцяў агульнае дзяржаўнае значнасьці.

ЦВК і СНК Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Адлічыць на узмацаваньне мясцовых сродкаў 25% прыбытковых паступленьняў ад аддачы у арэнду дзяржаўных зямельных маемасьцяў агульнае дзяржаўнае вагі (арт. 3).

2. Абавязаць мясцовыя зямельныя установы аддаваць усе прыбыткі, якія зьбіраюцца ад аддачы у арэнду дзяржаўных зямельных маемасьцяў, памянёных ў арт. 1-м, у губэрскі фінансавы аддзел дзеля залічэньня 75% у агульна дзяржаўные прыбыткі па каштарысу НКЗ і 25% у мясцовыя сродкі належачых выканаўчых камітэтаў. Прыбыткі з дзяржаўных зямельных маемасьцяў мясцовае значасьці залічыць поўнасьцю у мясцовыя сродкі належачых выканаўчых камітэтаў.

3. Даручыць Наркамземам па згодзе з НКФ і НКУС злажыць і падаць да 1 верасьня 1923 г. на зацьверджаньне Саўнаркомаў саюзных рэспублік сьпісы дзяржаўных зямельных маемасьцяў, якія маюць агульную дзяржаўную значнасьць (арт. 5).

4. Даручыць НКФ Саюзу ССР па згодзе з Наркамземамі Саюзных Рэспублік выдаць інструкцыю аб ажыцьцяўленьні гэтае пастановы.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Нам. старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

27-га ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 59. Аб зьніжэньні гэрбавага збору па дагаворам аб праву забудаваньня зямельных вучасткаў, адбудаваньня разбураных і дабудаваньня няскончаных дамоў.

ЦВК і СНК Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. У пераіначаньне і дадатак да арт. 3 аб гэрбавым збору і § 17 кароткага да яго пераліку (З. У. № 9 за 1922 г., арт. 89) і пастановы УЦВК і СНК ад 11/IV 1923 г. („Известия ВЦИК" № 82 от 15 апреля 1923 г.") дагаворы, устанаўліваючыя права забудаваньня зямельных вучасткаў адбудаваньня разбураных і дабудаваньня няскончаных дамоў, павінны быць аплачаны па зьніжаным стаўкам прапорцыянальнага гэрбавага збору вышэйшага акладу у ліку 0,15% з сумы акту.

2. Гэтая пастанова уваходзіць у моц з мамэнту апублікаваньня і распаўсюджваецца гэтак сама на дагаворы, зробленныя да выданьня яго, але прытрыманыя выкананьем за няўзнос гэрбавага збору.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

17 ліпеня—1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 60. Аб перадачы правоў па накладным.

З мэтаю каб урэгуліраваць пытаньне аб парадку падачы прэтэнзіяў (іскаў) да чыгунак па накладыым ЦВК і СНК Саюзу ССР у дадатак да статуту чыгунак РСФСР (З. У. 1923 г., № 38) **пастанаўляюць:**

I. Дазволіць пераступку правоў па накладным, адносячымся да выкупленых ужо адтрымліваючым іх грузаў, робячы на накладных надпісы аб пераступцы с тым, каб памяненая пераступка дазвалялася толькі у ніжэйнаступных выпадках: ад усякага ўласьніка накладной: 1) на імя: а) дзяржаўных установаў і прадпрыемстваў, б) на імя органаў спажывецкае, сельска-гаспадарчае, пазычковае і прамысловае коопэрацыі; 2) ад адтрымліваючага грузы на імя памянёнага у накладной адпраўшчыка гэтага грузу.

II. Надпісы аб пераступцы, робленыя на накладных ад імя дзяржаўных установаў, дзяржаўных прадпрыемстваў альбо коопэратыўных органаў, падпісваюцца адпаведнымі кіраўнікамі іх і да іх прыстаўляецца прысвоеная гэтай дзяржаўнай установе, дзяржаўнаму прадпрыемству альбо коопэратыўнаму органу пячатка; тыя ж надпісы, якія робяцца прыватнымі асобамі і установамі, павінны быць засьведчаны законнымі парадкамі.

III. На кожнай накладаной можа быць зроблена ня болей 3-х надпісаў аб пераступцы; усе пазьнейшыя надпісы лічацца скасаванымі.

IV. Драбленьне прэтэнзіяў, вынікаючых з аднае накладное, а гэтак сама і падача дарогам гэткіх прэтэнзіяў ад імя розных асобаў, не дазваляецца, за выключэньнем дамаганьня аб звароту пераплачанае сумы (перабору) адпраўшчыкам груза, заплаціўшым яе на станцыі, адкуль адпраўлена.

V. Перадаручэньні на падачу чыгункам прэтэнзіяў і іскаў па накладным могуць давацца ўласьнікамі грузу альбо іх правапрыемнікамі толькі у форме асобных даручэньняў.

VI· Гэтая пастанова уводзіцца у дзейнасьць з 1-га кастрычніка 1923 г.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

27-га ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 61. Аб парадку папаўненьня стратаў на раскватэраваньне установаў і завядзеньняў вайсковага і марскога ведамстваў.

Каб перайначыць і дапоўніць аддзел VIII пастановы ЎЦВК ад 31 жніўня 1922 г. (пералік стратаў, якія належыць аднесьці на мясцовыя грашовыя сродкі) ЦВК і СНК Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

А. На мясцовы бюджэт аднесьці страты на памяшканьні, а гэтак сама страты на аплату электрычнасьці, газу і матар'ялаў на асьвятленьне (па апрадзеленным нормам), на аплату вады, падаваемае вадападачаю, і на дастаўку вады, калі яна аддалена ад існочніка далей як на адну чвэртку вярсты, і на асэнізацыю (ачыстку і вывазку бруду, а гэтак сама сьмецьця з выграбных ямаў) дзеля наступных часьцей, установаў і завядзеньняў вайсковага і марскога ведамстваў:

1) вайсковых страявых і нестраявых часьцей арміі і флёту да корпусных упраўленьняў уключна, як уваходзячых у склад дывізіі, гэтак і не уваходзячых, з усімі уваходзячымі у іх склад па штатным расьпісаньням установамі і завядзеньнямі, за выключэньнем рухомых установаў, абслугоўваючых ня толькі памяняныя вышэй часьці, а цэлыя раёны;

2) вайсковых навуковых завядзеньняў, за выключэньнем акадэміяў і вышэйшых школаў камандзерскага стану, з усімі дададзенымі да іх па штату установамі і завядзеньнямі;

3) губэрскіх краінных і павятовых вайсковых камісарыятаў з усімі дададзенымі да іх па штатным расьпісаньням часьцямі, установамі і завядзеньнямі;

4) гарнізонных упраўленьняў з дададзенымі да іх штатнымі часьцямі, установамі, завядзеньнямі і г. д.

5) вайсковых і марскіх санітарных і ветэрынарных завядзеньняў леку, за выключэньнэм рухомых установаў гэткіх самых, абслужваючых цэлыя раёны.

Б. Папаўненьню з ліку агульна дзяржаўных сродкаў падлягае рэшта стратаў на кватэрнае давольства па пералічаным у разьдзеле А часьцям, установам і завядзеньням, а гэтак сама ўсе страты на раскватэраваньне усіх іншых не пералічаных у разьдзеле А часьцей, установаў і завядзеньняў вайсковага і марскога ведамстваў, як страты на раскватэраваньне:

1) усіх цэнтральных вайсковых установаў, як па вайсковаму ведамству, гэтак і па марскому, з усімі дададзенымі да іх штатнымі установамі і завядзеньнямі, а гэтак сама складамі і заводамі;

2) акружных упраўленьняў і штабаў з усімі дададзенымі да іх штатнымі установамі і завядзеньнямі, а гэтак сама складамі і заводамі;

3) усіх пералічаных у разьдзеле А вайсковых часьцей, установаў і завядзеньняў б. Далека-Усходняе рэспублікі, Турк. фронту і асобнае каўкаскае арміі, тэрмінам да канца бюджэтнага 1922—1923 г.

4) акадэміі і вышэйшых школаў камандзерскага саставу з усімі дададзенымі да іх па штатам установамі і завядзеньнямі.

> Увага: Сьпіс вышэйшых школаў камандзерскага саставу, падлеглых дзейнасьці гэтага артыкулу, складаецца па згодзе Нар. Кам. па вайсковым справам, Нар. Кам. фінансаў, Нар. Кам. Работніцка-Сялянскае Інспэкцыі і Народных Камісарыятаў па Ўнутраным Справам хаўрусных рэспублік.

5) усіх вайсковых і марскіх часьцей, установаў, завядзеньняў і кіраўніцтваў, знаходзячыхся на тэрыторыі усіх крэпасьцяў, умацаваных раёнаў і вайсковых партоў.

6) усіх палігонаў—інжынэрных, артылерычных, газавых.

7) усіх аэрадромаў вадушнага флёту;

8) электрычных і вадзяных станцыяў, необходных дзеля выключнага абслугоўваньня вайсковых часьцей, установаў і г. д.

> Увага: Сьпіс памяненых у пункту 8 электрычных і вадзяных станцыяў складаецца па згодзе паміж Нар. Кам. Земляробства, Нар. Кам. Раб.-Сял. інспэкцыі, Нар. Кам. Унутруных Справаў і Юстыцыі.

В. Гэтая пастанова ўводзіцца ў дзейнасьць усемяйсцова з 1-га красавіка 1923 г.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

27 ліпеня 1923 г.
Масква Крэмль.

---

## 62. Аб устанаўленьні цьвёрдых прадзельных мясцовых падаткаў.

У дадатак да пастановаў ЎЦВК і СНК ад 29 жніўня 1922 г. аб пераінačаньні ліку мясцовых падаткаў і збораў («Известия ВЦИК» ад 1-га верасьня 1922 г., № 195) і ад 23-га лістападу 1922 г. аб павялічэньні ставак некаторых мясцовых налогаў і збораў («Известия ВЦИК» ад 26 лістападу 1922 г., № 268), дэкрэту СНК ад 31-га кастрычніку 1922 г. аб мясцовым падатку на кватэры («Известия ВЦИК» ад 11-га лістападу 1922 г., № 225) і зацьверджаных УЦВК і СНК 5-га студзеня 1923 г. правілаў аб мясцовым падатку з прамысловых садоў і агародаў («Известия ВЦИК» ад 10-га студзеня 1923 г., № 5) Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Устанавіць дзеля мясцовых падаткаў і збораў, стаўкі якіх вышэйпамяненымі дэкрэтамі прызначаны у савецкіх грашовых знаках, наступныя верхнія прадзельныя стаўкі у залатым вылічэньні.

*А. У местах.*

1. Падаткі з кватэраў, зьбіраемыя на падставе дэкрэту СНК ад 31-га кастрычніка 1922 г. аб мясцовым падатку на кватэры («Известия ВЦИК» ад 11-га лістападу 1922 № г., 225) у наступным ліку: з жылое плошчы, у межах нормы, устаноўленай губэрскім выканаўчым камітэтам, з рабочых і служачых дзяржаўных і прыраўнаваных да іх установаў і прадпрыемстваў і рабочых прыватных прамысловых прадпрыемстваў, а гэтак сама і членаў іх сямействаў, ня звыш паўтары капейкі, з іншых асоб ня звыш 15 кап. з квадратнага сажня ў год; памяненыя стаўкі суналежна падымаюцца на падставе арт. 6 гэтага дэкрэту дзеля аблажэньня лішняе жылое плошчы, звыш устаноўленае губэрскімі выканаўчымі камітэтамі нормы.

2. Падаткі з скаta, за выключэньнем коняў, а гэтак сама і з другіх жывелін паказаных у пастанове СНК ад 26-га верасьня 1922 г. («Известия ВЦИК» ад 1-га і 4-га кастрычніка 1922 г., № 221 і 225) у ліку ня звыш аднаго рубля з галавы буйнага скаta і ня звыш 10 кап. з галавы дробнага скаta і другіх хатніх жывелін за паўгодзьдзе.

3. Падаткі з фурманачнага промыслу у ліку ня звыш 5-ці рублёў за паўгодзьдзе з кожнага працуючага у фурманках каня.

4. Падаткі з перавознага промыслу у ліку:

а) ня звыш аднаго рубля за паўгодзьдзе з ручное каламажкі або ручных санак, прызначаных дзеля промыслу;

б) ня звыш 1 р. 50 к. у сэзон з кожнага каня або чаўна дзеля перавозкі людзей;

в) ня звыш 5-ці рублёў у сэзон з кожнага парому або грузавое лодкі.

5. Падатак з коняў, экіпажаў дзеля раз'езду, належачых як прыватным асобам, таварыствам і прадпрыемствам, гэтак і ўрадавым установам і прадпрыемствам, у ліку ня звыш 10 руб. з кожнага каня і кожнага экіпажу за паўгодзьдзе.

6. Падаткі з самакатаў, самарушачых экіпажаў, яхтаў і маторных лодак, належачых як прыватным установам і прадпрыемствам так і ўрадавым установам і прадпрыемствам, акромя знаходячыхся на дзяржаўным бюджэту, у ліку ня звыш 50 кап. за паўгодзьдзе з самаката, ня звыш 2-х р. за паўгодзьдзе з кожнае яхты і з кожнае сілы самарушачага экіпажу або маторнага судна, прызначанага дзеля перавозкі пасажыраў, і ня звыш 75 кап. за паўгодзьдзе з кожнае сілы грузавіка.

7. Падаткі з прамысловых садоў і агародаў, зьбіраемыя на падставе правілаў аб гэтым налогу, зацьверджаных УЦВК і СНК 5 студзеня 1923 г. («Известия ВЦИК» за 10 студзеня 1923 г., № 5) у наступным ліку з кожнага квадратнага сажня плошчы: ня звыш 0,5 кап. у Маскве і Петраградзе і ня звыш 0,3 кап. у іншых местах, аднесеных раскладкаю мясцовасьцяў на паясы па таксам патэнтнага збору да вышэйшага поясу, і ня звыш 0,2 кап. у местах, аднесеных памяненаю раскладкаю да вышэйсярэдняга і сярэдняга паясоў.

8. Збор з прыгоньваемага на рынак дзеля прадажы скаta у ліку ня звыш 50 кап. з галавы буйнага скаta і ня звыш 10 кап. з галавы дробнага скаta.

9. Падаткі з плакатаў, афішаў і сьветавых рэкламаў у ліку:

а) з плакатаў і афішаў ня звыш $2^1/_2$ кап. з кожнага квадратнага вяршка плакату або афішы з кожнае поўнае або няпоўнае тысячы экзэмпляраў.

б) з сьветавых рэкламаў ня звыш 5 кап. з кожнага квадратнага вяршка рэкламы у месяц.

10. Прыпісачны збор у ліку ня звыш 10 кап. з кожнае прыпіскі.

11. Падаткі з асобаў, карыстаючыхся нанятаю працаю дзеля хатняга абыходу (хатнія слугі) у ліку ня звыш 2-х рублёў 50 кап. за паўгодзьдзе пры аднэй нанятай слузе, а пры некалькіх слугах ня звыш 10 рублёў з кожнае нанятае асобы.

*Б. Вонках местаў.*

12. Падатак з фурманачнага промыслу у ліку ня звыш 2 руб. за паўгодзьдзе з кожнага працуючага у прамысловых фурманках каня.

13. Падатак з перавознага промыслу у ліку:

а) ня звыш аднаго рубля у сэзон з кожнае лодкі або чаўна, прыназначаных каб перавозіць людзей;

б) ня звыш 2 руб. у сэзон з кожнага парому або грузавое лодкі.

14. Падатак з коняў і экіпажаў дзеля выезду, належачых як прыватным асобам, таварыствам і прадпрыемствам, гэтак і урадавым установам і прадпрыемствам, у ліку ня звыш аднаго рубля і пяцідзесяці капеек з кожнага экіпажу.

15. Падатак з прамысловых садоў і агародаў, зьбіраемы на падставе правілаў аб гэтым падатку, зацьверджаных УЦВК і СНК 5-га студзеня 1923 г. («Известия ВЦИК» за 10 студзеня 1923 г., № 5) у ліку ня звыш трох дзесятых капейкі у год з кожнага квадратнага сажня плошчы у сельскіх мясцовасьцях, аднесеных ня больш 30-ці верстаў ад рысы местаў Масквы і Петраграда, і ня звыш аднае дзесятае капейкі у сельскіх мясцовасьцях, аднесеных не далей 10-ці верстаў ад рысы іншых губэрскіх местаў.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССС* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

27 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 63. Зацьверджаньне пастановы УЦВК аб дачы льготаў па выплаце акцызу на соль, якая йдзе на расейскія рыбныя промыслы Далекага Усходу.

Зацьвердзіць пастанову прэзыдыуму УЦВК ад 18-га ліпеня г. г. аб зьніжэньні акцызу на соль у наступнай рэдакцыі:

«З мэтаю дапамогі росквіту рыбнае прамысловасьці РСФСР на Далёкім Усходзе, УЦВК і Саўнарком Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Часова устанавіць на соль, здабытую на промыслах РСФСР і ідучую на рыбныя промыслы РСФСР на Далёкім Усходзе, скідку з акцызу у ліку 75%.

2. Устанавіць на соль, вывожваемую з промыслаў РСФСР на Далёкі Усход, безакцызнае адлічэньне у ліку 4% з колькасьці вывезеннае з промыслаў солі».

Гэтую пастанову распаўсюдзіць на рыбныя промыслы на Далекім Усходзе, эксплёатыруемыя грамадзянамі, арганізацыямі і установамі Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

27 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 64. Пастанова аб каштарысу на выданьне атласу нацыянальных аб'яднаньняў.

Прызнаць неабходным, выданьне географічнага атласу нацыанальных аб'яднаньняў Саюзу ССР.

Каштарыс на выданьне атласу, пададзены у прэзыдыум ЦВК Саюзу за подпісам тав. Белабародава, передаць у Саўнарком ССР з даручэньнем разглядзець пытаньне і даць патрэбныя сродкі.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

27 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 65. Аб выданьні „Весьніка ЦВК, Саўнаркому і СПА Саюзу ССР".

Прызнаць неабходным выданьне „Весьніка ЦВК, Саўнаркому і СПА Саюзу ССР" у трох тысячах экзэмпляраў у аднэй кніжцы на шасьці мовах: расейскай, украінскай, беларускай, тюрка-татарскай, армянскай і грузінскай.

Выдаваць памянены „Весьнік" адзін раз у два тыдні.

Даручыць т. Курскаму выпрацаваць і падаць у сэкратарыят ЦВК Саюзу ССР проэкт пастановы з паказаньнем, што ўсе дэкрэты, пастановы і загады ЦВК, Саўнаркому і СПА Саюзу ССР уваходзяць у законную моц альбо з мамэнту адтрыманьня на мясцох суналежных нумэроў „Известий" і „Экономической Жизни", альбо з мамэнту адтрыманьня на мясцох «Весьніка» у тых выпадках, калі пастановы і дэкрэты не надрукаваны ў вышэйпа мяненых газэтах.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

27 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 66. Аб льготах сялянству у зьвязку з увядзеньнем адзінага сельска-гаспадарчага падатку.

Перад рабоча-сялянскім урадам стаіць задача адбудаваньня сялянскае гаспадаркі і палягчэньня гаспадарыць на зямлі.

Закон аб адзіным натуральным падатку быў пачаткам грунтоўнай раформы у межах падатковага заканадаўства у весцы. Карысьць гэтага закону дзеля сялянскае гаспадаркі была зразумела насяленьнем і яно спаткала яго спагадна. Вялізарная большасьць сялянства здала натуральны падатак у новай палéгчанай форме—поўнасьцю.

Цяпер урад робіць наступны крок па дарозе палатвеньня умоваў вядзеньня сялянскае гаспадаркі. У новым закону аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку яна усе прамыя падаткі дзяржаўныя і мясцовыя, выплачваемыя як натурай, так і грашмі, об'яднае у адзіны падатак на сельскую гаспадарку, адначасна забараняя устанаўленьне на яе якіх-небудзь іншых падаткаў. Закон аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку дае селяніну магчымасьць загадзьдзя ведаць усю суму належачага з яго прамога обкладаньня і мець справу толькі з адным паборцам. Даваемае плацельшчыку права выплаты падатку часткаю грашмі скараціць траты селяніна па ўзносу падатку і дасьць магчымасьць выбраць больш выгодную дзеля яго форму выплаты.

Дзеля палатвеньня выплаты падатку і падтрыманьня гаспадаркі тых, хто сваімі грудзямі абараняе рэспубліку, закон захоўвывае льготы па падатку дадзеныя раней сям'ям асобаў, служачых у чырвонай арміі.

У мэтах умацаваньня нанава утвараючыхся гаспадарак, падтрыманьня іх у асабліва цяжкі пэрыод пераломy і пераходу да новага гаспадарчага укладу, закон уводзіць льготы дзеля перасялéнцаў і рассялéнцаў. Дзеля пашырэньня плошчы, якая засяваецца і распаўсюджаньня палéпшаных, а таксама асабіста каштоўных сартоў расьлін і парод жывёлы, гэтак сама такіх спосабаў вядзеньня зямляробства, карысьць якіх даведзена на вопыту і ужываньне якіх даступна шырокім сялянскім масам—закон зусім звальняе ад абкладаньня насеньнікі і пасевы асабіста каштоўных расьлін і вопытныя пасевы, а так сама пасевы, якія зроблены дзеля паказу і даець льготы па падатку гаспадаркам, якія ўводзяць на сваей зямлі галоўныя паляпшэньні або ужываючым спосабы зямляробства і жывёлаводцтва, павялічываючыя прыбытак селяніна.

Уводзячы ў жыцьцё новы закон, які шмат прасьцéй і моцна абмяжоўвае абкладаньне селяніна, дае яму вялікія льготы, рабоча-сялянскі ўрад, які завець усё сялянства Савецкіх Рэспублік да выкананьня рэвалюцыйнае павіннасьці па умацаваньню гаспадарчае моцы краю, пэўна, што сялянствам будуць поўнасьцю і у тэрмін выкананы падатковыя абавязнасьці.

Будучы сьвядомымі аб перашкоднасьці дзеля беднейшага сялянства выкананьня рэвалюцыйнае павіннасьці ЦВК і СНК Саюзу ССР у мэтах падняцьця гаспадарчае моцы лічуць неабходным устанавіць наступныя льготы.

1) Зьняць поўнасьцю усе залічаныя за насельнікамі нядоімкі:

а) па натуральным падаткам 1921 г.,

б) па часоваму падатку 1922 г. на малочныя прадукты і яйца.

2) Зьняць задоўжанасьць насельнікаў па усім насенным пазыкам, выданым да 1921 г. і па пазыцы, выданай вясной 1921 г.

3) Утварыць пры губэрскіх выканаўчых камітэтах асобыя камісіі з прадстаўнікоў губэрскага выканаўчага камітэту і губэрскага зямельнага упраўленьня, а таксама губэрскага камітэту харчаваньня у губэрнях з насеннаю формай ўзысківаньня падатку і губэрскага адзелу фінансаў у губэрнях, бяручых падатак выключна грашмі.

4) Даць камісіям, утвораным у парадку арт. 3 гэтае пастановы, наступныя правы:

А) зьняцьця задоўжанасьці па насеннай пазыцы, выданай восеньню 1921 г. і вясной 1922 г. наступным катэгорыям гаспадаркі:

а) маючым 2—$2^1/_2$ і меньш дзесяцін абкладаемай пашні, калі у сям'і есьць асоба, якая служыць у чырвонай арміі;

б) бяднейшым і найбольш малазямельным, асабліва тым, у якіх няма трудаспасобных працаўнікоў мужчын або рабочай жывелы;

Б) адстрочкі да 1924 г. задоўжанасьці, пералічанай у п. А гэтага артыкулу, усім гаспадаркам, дзеля якіх, па гаспадарчым умовам гэтага году, выплата часткаю або поўнасьцю задоўжанасьці па насеннай пазыцы выявіцца не па сілам.

5. Даручыць НКХ і НКФ Саюзу ССР па згоднасьці з НКЗ РСФСР у тыднёвы тэрмін выпрацаваць інструкцыю па прывядзеньню у дзейнасьць гэтае пастановы.

6. Выкананьне гэтае пастановы узлажыць на народны камісарыят харчаваньня і НКФ па належнасьці.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

27 ліпеня—1923 г.
Масква—Крэмль.

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ
# Савету Народных Камісараў
## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**67. Аб таварных знаках.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Дзейнасьць дэкрэту Саўнаркому РСФСР ад 10 лістападу 1922 г. аб таварных знаках (Зб. Узак. 1922 г., арт. 939) пашырыць на ўсю тэрыторыю Саюзу ССР.

2. З уступленьнем у моц дэкрэту ад 10 лістападу 1922 г. прызнаць страціўшымі моц дэкрэт СНК ад 15 жніўня 1918 г. аб пошліне на таварныя знакі (Зб. Узак. 1918 г., арт. 649) і пастанову ВСНГ аб таварных знаках дзяржаўных прадпрыемстваў (Зб. Узак. 1919 г., арт. 332) і іншыя, выданыя да 10 лістападу 1922 г. пастановы аб таварных знаках.

3. З 1-га сакавіка 1924 г. забараняецца карыстацца таварнымі знакамі, якія належалі ўласьнікам нацыяналізаваных прадпрыемстваў да іх нацыяналізацыі. Забарона гэта пашыраецца на нацыяналізаванныя прадпрыемствы, на быўшых уласьнікаў гэтых прадпрыемстваў, а гэтак сама і на ўсіх іншых асобаў. У выпадку невыпаўненьня гэтага, права іску аб спыненьні незаконнага карыстаньня таварным знакам належыць, як суналежным нацыяналізаваным прадпрыемствам, так і камітэту унутранага гандлю пры Савеце Працы і Абароны, прэзыдыумам ВСНГ Саюзу ССР і асобных хаўрусных рэспублік, а гэтак сама эканамічным нарадам.

> Увага. Да 1-га сакавіка 1924 г. таварнымі знакамі, паказаннымі у гэтым артыкулу, мае права карыстацца толькі нацыяналізаваныя прадпрыемствы з тым, адылі, каб у таварны знак уключалася паказаньне на надлежнасьць гэтага прадпрыемства да дзяржавы.

4. Пры рэгістрацыі таварных знакаў, згодна дэкрэту ад 10-га лістападу 1922 г. за ўласьнікамі, зарэгістраваўшымі свае таварные знакі у парадку дэкрэту Саўнаркому ад 15-га жніўня 1918 году, у працягу 6-ці месяцаў з моманту уступленьня у моц гэтае пастановы, прызнаецца первенства на заяўку паказанных таварных знакаў.

5. Уласьнікі, якія набудуць на падставе арт. 4 гэтае пастановы права на таварны знак, ня могуць прад'яўляць іску аб нарушэньні гэтага права, калі нарушэньне яго мела месца да яго набыцьця, праз зарэгістрыраваньне таварнага знаку у аддзеле таварных знакаў камітэту па справам дабываньня пры ВСНГ у парадку дэкрэту ад 10 лістападу 1922 г.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справаў СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

18 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

**68. Аб збору за рэгістрацыю акцыонэрных грамадаў і таварыстваў поўных і на веры.**

Зьменаю пастановы Саўнаркому РСФСР ад 21-га сакавіка 1923 году аб аплаце дзейнасьцяў камісіі па ўнутранаму гандлю па рэгістрацыі акцыонэрных грамадаў (Зб. Узак. за 1923 г., арт. 334), ч. 1 арт. 5-га пастановы Савету Працы і Абароны РСФСР ад 20-га лютага 1923 году аб рэгістрацыі таварыстваў поўных і на веры (Зб. Узак. за 1923 г., арт. 201) і выданых на падставе паказаных пастановаў ведамственых загадаў Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

1. Устанавіць наступныя дзяржаўныя зборы за дзеі, зьвязаныя з рэгістрацыяй акцыонэрных грамадаў і таварыстваў поўных і на веры:

а) за першапачатковую рэгістрацыю акцыонэрных грамадаў. . . . . . 25 руб. зол.
б) за першапачатковую рэгістрацыю таварыстваў поўных і на веры . . . 10 „ „
в) за кожную рэгістрацыю панаступных зьменаў і дадаткаў у зарэгістрыраваных ведах аб акцыонэрных грамадах . . . . . . . . . . . . . 5 „ „
г) за кожную рэгістрацыю панаступных зьменаў і дадаткаў у зарэгістрыра-

ваных ведах аб таварыствах поўных і на веры . . . . . . . . . . 3 руб. зол.

д) за вытворчасьць камісіяй па ўнутранаму гандлю пры СПА справаў па жалабам на адмову у рэгістрацыі таварыстваў поўных і на веры. . . 5 „ „

е) за выпіску кожнага запісу аб рэгістрацыі акцыонэрных грамадаў (ўзамен канцэлярскага збору). . . . . 2 „ „

ж) за выпіску кожнага запісу аб рэгістрацыі таварыстваў поўных і на веры (ўзамен канцэлярскага збору). 1 „ „

2. Усе памянёныя у арт. 1-ым гэтай пастановы зборы ўносяцца непасрэдна у рэгістрыруючыя установы. Парадак ўзысканьня і здачы у даход казны збораў, а таксама парадак справаздачнасьці па ім устаноўліваецца народным камісарыятам фінансаў па згодзе з камісіяй па ўнутранаму гандлю пры СПА.

3. Узысканыя зборы ў выпадку адмовы у рэгістрацыі акцыонэрных грамадаў і таварыстваў поўных і на веры, узвароту ні ў якім выпадку не падлягаюць.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

20 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 69. Аб бесплатнай перасылцы па пошце простых зачыненых лістоў на імя чырвонаармейцаў і чырвонафлётцаў.

У мэтах устанаўленьня больш шчыльнай сувязі чырвонай арміі з насельніцтвам Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

1. Устанавіць бесплатную перасылку па пошце простых зачыненых лістоў, вагаю да 20 грамаў, і паштовых адкрытак на імя чырвонаармейцаў і чырвонафлётцаў, адрасаваных у часьці, установы і завядзеньні, у якіх яны састаяць на службе.

2. Лісты, вага якіх перавышае 20 грамаў, а таксама лісты і адкрыткі, адрасаваныя чырвонаармейцам і чырвонафлётцам на прыватную кватэру, або да ўстрэбаваньня, або дзеля перадачы іншым асобам падлягаюць аплаце на агульнай падставе па дзеючым таксам.

3. Парадак выдачы лістоў і кантролю за точным выкананьнем гэтай пастановы устанавіць у тыднёвы тэрмін наркампочтэлю па згодзе з рэўваенсаветаў Саюзу ССР.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

20 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 70. Аб абавязковым напісаньні вэксаляў на вэксалёвай паперы.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Арт. 1 палажэньня аб вэксалях (З. У. 1922 году, арт. 285) выкласьці у наступнай зьмененай рэдакцыі: „Вэксалем называецца грашовы абавязак доўгу, выданы аднэй стараной (вэксаледацелем) другой старане (вэксалетрымацелю) з захаваньнем усіх вымаганьняў гэтага палажэньня і напісаны на вэксальнай паперы суналежнай якасьці“.

2. Цана вэксальнай паперы паказываецца у залатым вылічэньні. Аплата вэксальнай паперы вядзецца або савецкімі грашовымі знакамі, па афіцыальнаму курсу котыравальнай камісіі або чырвонцамі, у банкавых білетах па агульнай цане.

3. Дзеля азначэньня якасьці неабходнай для напісаньня вэксаля вэксальнай паперы, згодна вымаганьням статуту аб дзяржаўным гэрбавым збору, сума вэксаляў, выпісаных не ў залатых рублёх, пераводзіцца на залатыя рублі наступным чынам:

а) дзеля вэксаляў, выпісаных у банкавых білетах, памяркоўна агульнай цане апошніх;

б) дзеля вэксаляў, выпісаных у чужаземнай валюце, па біржаваму курсу фондавай біржы, з пераводам у залатыя рублі па курсу котыравальнай камісіі на дзень выпісваньня вэксалю;

в) дзеля вэксаляў, выпісаных у савецкіх грашовых знаках—па курсу котыравальнай камісіі.

4. Азначэньне часу ўвядзеньня ў дзейнасьць гэтае пастановы, даецца народнаму камісарыяту фінансаў па згодзе з камітэтам унутранага гандлю.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

24 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 71. Аб перайначаньні вялічыні акцызу.

На падставе п. 2 пастановы УЦВК і СНК ад 19 красавіка 1923 г. Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

I. Апрадзяліць наступныя вялічыні акцызу у грашах 1923 году.

**1. На віны:**

*А. Мясцовае работы.*

а) віны з вінаграду, маючыя алкаголю да 14° і з пладоў і ягадаў—трыста трыццаць шэсьць рублёў з вядра;

б) віны з вінаграду, маючыя алкаголю звыш 14°, але ня больш як 20°, і з разынак—восемсот сорак рублёў з вядра;

в) іграючыя (пенячыя, зробленыя як шампаньскае)—дзьве тысячы сто рублёў з вядра.

Увага: У тых раёнах, дзе робіцца віно, віны з вінаграду, памяненыя у разьдзеле 1-м, п. 1, літ. «а» гэтае вось пастановы, абкладваюцца

акцызам у палавінную вялічыню, апрача вінаў якія прадаюцца у гэтых раёнах у межах меставых пасяленьняў, а гэтак сама вінаў, вываждваемых за межы гэтых раёнаў.

*Б. Замежнага гатунку:*

а) з утрыманьнем алкаголю да 14°—шэсьцьсот семдзесят два рублі з вядра;

б) з утрыманьнем алкаголю звыш 14°, але ня больш 20°—адна тысяча шэсьцьсот восемдзесят рублёў з вядра;

в) іграючыя (пенячыя, зробленыя як шампаньскае)—чатыры тысячы дзьвесьце рублёў з вядра.

**2. На табачныя вырабкі:**

*А. Мясцовай работы:*

а) жоўтая табака у лістох, перадаваемая з кладавых фабрыкаў на фабрыкі дзеля перапрацоўкі у табаку дзеля курэньня і папяросы—дзьвесьце дзесяць рублёў з фунту;

б) дадатковы акцыз з папярос, вырабляемых у папяросных майстэрнях—дваццаць восем рублёў з тысячы.

в) махорка—чатырнаццаць рублёў з фунту;

г) цыгары—тысяча шэсьцьсот восемдзесят рублёў з тысячы;

д) цыгаркі—шэсьцьсот восемдзесят рублёў з тысячы;

е) папяросы з махоркі—восемдзесят чатыры рублі з тысячы.

*Б. Якія прывозяцца з-за кардону.*

а) Табака усіх сартоў дзеля курэньня і нюханьня—чатырыста дваццаць рублёў з фунту;

б) папяросы усіх сартоў—восемсот сорак рублёў з тысячы;

в) цыгары—пяць тысячаў шэсьцьсот рублёў з тысячы;

г) цыгаркі—дзьве тысячы сто рублёў з тысячы.

**3) На запаліваючыя сярнічкі**—семдзесят капеек з карабка.

**4) На гільзавыя вырабкі:**

а) папяросныя гільзы—дваццаць восем рублёў з тысячы;

б) папяросную паперу—два рублі дзесяць капеек з квадратнага мэтру.

**5) На піва**—сто сорак рублёў з вядра.

**6) На мёд, квас, фруктавыя і штучныя мінэральныя воды**—дваццаць восем рублёў з вядра.

**На бураковы крысталічны цукер:**

а) цукер-пясок—чатырыста дваццаць рублёў з пуду;

б) цукер-рафінад—дадаткова, апрача галоўнага акцызу—сто пяць рублёў з пуду.

**8) На крахмальны цукер**—у рэдкім і цьвердым гатунку, крахмальная патака, глюкоза і рафініраваны цукер, крысталічны і някрысталічны—сто шэсьцьдзесят рублёў з пуду.

**9) На сахарын і іншыя падобныя да яго штучныя салодкія рэчы**—адна тысяча чатырыста рублёў з фунту брутто.

**10) На гарбату:**

б) байховая—сто дваццаць шэсьць рублёў з фунту;

б) плітачная—семдзесят сем рублёў з фунту;

в) цэглавая—трыццаць пяць рублёў з фунту.

**11) На каву** натуральную сырую, або падпаляную і молатую—восемдзесят чатыры рублі з фунту.

**12) На ўсе гатункі сурагатаў гарбаты і кавы**—сем рублёў з фунту.

**13) На павараную соль**—пяцьдзесят шэсьць рублёў з пуду.

**14) На нафтавыя прадукты:**

а) нафтавы алей для асьвятленьня і іншыя празрыстыя прадукты (сталяровы і змазачны алей) за выключэньнем бянзіну—восемдзесят чатыры рублі з пуду;

б) бянзін—сто шэсьцьдзесят восем рублёў з пуду.

**15) На эцілавы вінны сьпірт:**

а) пры дачы на здабрываньне вінаградных вінаў дзеля прыгатаваньня налівак і настоек і ўсякага гатунку эсэнцыяў і парфумэрных вырабак з градусу сырога сьпірту—дваццаць пяць рублёў дваццаць капеек; з градусу рэктыфікаванага сьпірту—трыццаць адзін руб. пяцьдзесят капеек.

б) пры выдачы дзеля другіх тэхнічных, хімічных і іншых патрэбаў з градусу сырога сьпірту—восем рублёў сорак капеек;

З градусу рактыфікаванага сьпірту—дзесяць рублёў пяцьдзесяць капеек;

**16) На расейскі каньяк:**

а) вырабляемы з аплачаннага акцызам каньяковага сьпірту, апрача дадатковага акцызу — адна тысяча чатырыста рублёў з вядра;

б) прыгатаваны з неаплачанага акцызам каньячнага сьпірту, акрамя дадатковага акцызу,—трыццаць адзін рубель пяцьдзесят капеек з градусу знаходзячагася у ім сьпірту.

**17) На гарэлачныя вырабы**, адпушчаемыя з запасаў, маючыхся ў загадзе наркамздраву дзеля мэтаў лячэньня, а таксама на наліўкі і настойкі моцнасьцю ня звыш 20°, апрача галоўнага акцызу са сьпірту у вялічыні—трыццаць адзін рубель пяцьдзесят капеек знаходзячагася у іх сьпірту, дадаткова—адна тысяча сто дваццаць рублёў з вядра.

**18) На прасаваныя дрожджы**—дваццаць восемь рублёў з фунту.

**19) На сухія дрожджы:**

а) прыгатаваныя праз высушываньні прасаваных дрожджаў па асобнаму спосабу—восемдзесят чатыры рубі з фунту;

б) прыгатавання па спосабу вырабу прасаваных дрожджаў з дабаўленьнем мукі і іншых падобных да яе прымешкаў у колькасьці, хапаючай дзеля поўнага зацьвярдзеньня дражджавой масы,—дваццаць восем рублёў з фунту.

**20. На гумалястывыя калёшы:**

а) з калёш унутранай вытворчасьці: дзеля дарослых—дваццаць восем рублёў, дзеля дзяцей—чатырнаццаць рублёў з пары;

б) з калёш, прывожваемых з-за кардону—пяцьдзесят шэсьць рублёў з пары.

**21. На сьвечкі з воску і озокерыту**—восемдзесят чатыры рублі з фунту.

**22. Акцыз з тэкстыльных вырабаў з фунту:**

**Папяровая пража.**

Ня звыш № 9—два рублі дзесяць капеек,

Вышэй № 9, але ня звыш № 29—чатыры рублі шэсьцьдзесят пяць кап.

Вышэй № 29, але ня вышэй № 39—сем рублёў.

Вышэй № 39, але ня вышэй № 49—чатырнаццаць руб.

Вышэй № 49, але ня вышэй № 79—трыццаць два рублі шэсьцьдзесят пяць капеек.

Вышэй № 79, але ня вышэй № 99—пяцьдзесят шэсьць рублёў.

Вышэй № 99—дзевяноста тры рублі трыццаць пяць кап.

**Вігоневая пража.**

Ня вышэй № 9—тры рублі пяцьдзесят капеек.

Вышэй № 9—сем рублёў.

**Пража з лену і пянькі.**

Ня вышэй № 6—адзін рубель семдзесят пяць кап.

Вышэй № 6, але ня вышэй № 10—два рублі трыццать пяць капеек.

Вышэй № 10, але ня вышэй № 12—тры рублі пяцьдзесят капеек.

Вышэй № 12, але ня вышэй № 14—пяць рублёў шэсьцьдзесят капеек.

Вышэй № 14, але ня вышэй № 20—сем рублёў.

Вышэй № 20, але ня вышэй № 22—восем рублёў сорак капеек.

Вышэй № 22, але ня вышэй № 24—дзевяць рублёў восемдзесят капеек.

Вышэй № 24, але ня вышэй № 30—чатырнаццаць руб.

Вышэй № 30, але ня вышэй № 40—дваццаць адзін руб.

Вышэй № 40, але ня вышэй № 60—трыццаць дзевяць рубл. щэсьцьдзесят пяць капеек.

Вышэй № 60, але ня вышэй 80—шэсьцьдзесят пяць рублёў трыццаць пяць капеек.

Вышэй № 80, але ня вышэй № 100—сто сорак дзевяць рублёў трыццаць пяць кап.

Вышэй № 100—сто шэсьцьдзесят восем рублёў.

**Канатная і пяньковая пража**—адзін рубель сорак кап.

Джутавая—чатыры рублі шэсьцьдзесят пяць кап.

**Шэрсьцяная камвольная пража (француск. прад.).**

Ня вышэй № 37—дзевяноста тры рублі трыццаць пяць капеек.

Вышэй № 37, але ня вышэй № 57—сто дванаццаць рублёў.

Вышэй № 57, але ня вышэй № 77—сто пяцьдзесят чатыры рублі.

Вышэй № 77, але ня вышэй № 82—сто восемдзесят шэсьць рублёў шэсьцьдзесят пяць кап.

Вышэй № 82—дзьвесьце трыццаць тры рублі трыццаць пяць капеек.

**Шэрсьцяная камвольная пража (англійская прад.).**

Ня вышэй № 8—адзінаццаць рублёў дваццаць кап.

Вышэй № 8, але ня вышэй № 14—восемнаццаць рублёў шэсьцьдзесят пяць капеек.

Вышэй № 14, але ня вышэй № 20—дваццаць восем рублёў.

Вышэй № 20, але ня вышэй 27—сорак адзін рубель пяць капеек.

Вышэй № 27, але ня вышэй № 34—пяцьдзесят шэсьць рублёў.

Вышэй № 34, але ня вышэй № 37—семдзесят чатыры рублі шэсьцьдзесят пяць капеек.

Вышэй № 37, але ня вышэй № 57—дзевяноста тры рублі трыццаць пяць капеек.

Вышэй № 57—сто сорак рублёў.

**Шэрсьцяная апаратная пража.**

Ня звыш 2-х маткоў—сем руб. дзевяноста пяць кап.

Звыш 2-х, але ня звыш 3-х—адзінаццаць рублёў дваццаць капеек.

Звыш 3-х, але ня звыш 5-ці—чатырнаццаць рублёў.

Звыш 5-ці, але ня звыш 7-мі—восемнаццаць рублёў шэсьцьдзесят пяць капеек.

Звыш 7-мі, але ня звыш 9-ці—дваццаць пяць рублёў шэсьцьдзесят пяць капеек.

Звыш 9-ці, але ня звыш 12-ці—трыццаць пяць руб.

Звыш 12-ці—пяцьдзесят шэсьць рублёў.

**Шаўковая пража.**

Бур-дэ-суа (або шапп) 100/1—дзьвесьце восемдзесят рублёў.

Бур-дэ-суа (або шапп) 200/2—чатырыста шэсьцьдзесят шэсьць рублёў шэсьцьдзесят пяць капеек.

Бур-дэ-суа (або шапп) 300/2—семсот рублёў.

Буррэт—семдзесят чатыры рублі шэсьцьдзесят пяць капеек.

**Грэжа (шоўк—сырэц).**

Тысажная—семсот рублёў.

Іншая—дзьвесце восемдзесят рублёў.

Штучны шоўк—дзьвесьце восемдзесят рублёў.

**З прывожваемых з-за кардону.**

Папяровыя тканіны асобна неназваныя прыгатаваныя з простай пражы (хоць бы з пругамі з кручанай пражы у два канцы і больш) тканіны палатнянага перапляценьня, маючыя у фунту ня звыш 8 кв. арш. і маючыя у 1 кв. дзюйму ня больш 152 нітак—сем рублёў сорак пяць кап., больш. 152 нітак—дваццаць рублёй пяцьдзесят пяць капеек.

Тканіны ўсякага спляценьня, апрача названых вышэй, маючыя у фунту ня звыш 12-ці кв. арш. і маючыя у 1 кв. дзюйму ў аснове і утоку разам: а) ня больш 240 нітак—трыццаць пяць рублёў сорак пяць капеек; б) больш 240 нітак—пяцьдзесят адзін рубель трыццаць пяць капеек.

Тканіны ўсякага спляценьня і усякае гусьціні, утрымліваючыя у фунту больш 12 кв. арш.—семдзесят чатыры рублі шэсьцьдзесят пяць капеек.

Папяровыя тканіны асобнай вырабаткі—пяцьдзесят шэсьць рублёў.

Канаты, бічоўкі, вяроўкі й сеці: канаты, вяроўкі, бічоўкі з джуту, кенэфу, пянькі, лёну, пяньковай і льнянай тканіны, сасновай шэрсьці, рамі, крапіўных валакон і іншых расьлінных валакністых матар'ялаў, смоляныя і нясмоляныя—чатыры рублі шэсьцьдзесят пяць капеек.

Сеці: а) хлапкова—папяровыя—шэсьць рублёў пяцьдзесят пяць капеек; б) льняныя джутовыя—восем рублёў сорак капеек.

Прыгатаваныя з джуту, кенэфу, пянькі і лёну: мяшкі, мяшочныя і ўпаковачныя тканіны, палавікі, да-

рожкі і сурувэткі дзеля абціраньня машын—адзін рубель восемдзесят пяць капеек.

Тканіны з лёну, пяньκі, джуту, кенэфу, сасновай шэрсьці, рамі, новозэландзкага лёну, манільскай пянькі, крапіўных валакон і іншых расьлінных матар'ялаў, замяняючых лён і пяньку; вокравыя, мэблявыя і папіровачныя, вагонныя і г. п. цяжкія тканіны—чатырнаццаць рублёў.

Тканіны дзеля адежы: каломенка, рагожка, дрэль. сацін, куціль, дыаганаль і г. п.—восемнаццаць рублёў шэсьцьдзесят пяць капеек.

Сталовыя і мэблявыя абрусы, сурувэткі і ручнікі—трыццаць два рублі шэсьцьдзесят пяць кап.

Палатно і батыст з някручанай пражы, льнянай, пяньковай і другіх валакністых матар'ялаў джуту, кенэфу, сасновай шэрсьці, рамі, новозэландзкага лёну, манільскай пянькі, крапіўных валакон і інш расьлінных матар'ялаў, замяняючых лён і пяньку, апрача тканін для адзежы: каломенка, рагожка, дрэль, сацін, куціль, дыаганаль і г. п.—сорак шэсьць рублёў шэсьцьдзесят пяць кап.

Хустачкі насавыя хоць бы ў неразрэзаных кусках—семдзесят чатыры рублі шэсьцьдзесят пяць кап.

Вашчанка, цырата, апрача шаўковай і паўшаўковай, і вырабу з іх, асобна неназваныя, тканіны, пакрытыя пробкавай масай (лінолеум), загрунтованыя фарбай і праалееныя, а гэтак сама усякага гатунку машынныя пракладкі, набіўкі для сальнікаў у гатунку пластоў і зьверткаў і г. п., прыгатаваныя з прасмоленых тканін брэзэнты, пяньковыя рукавы для пажарных труб, пяньковыя вёдры, пяньковыя папяровыя прывадныя рамяні—чатыры рублі шэсьцьдзесят пяць кап.

Шаўковыя тканіны і туль—трыста пяцьдзесят чатыры рублі шэсьцьдзесят пяць кап.

Вашчанка і цырата шаўковая і паўшаўковая—дзьвесьце дваццаць чатыры рублі.

Паўшаўковыя тканіны—сто восемдзесят шэсьць рублёў шэсьцьдзесят пяць кап.

Шэрсьцяныя вайлакі і вайлачныя матэр'ялы, асобна неназваныя прадметы, прыгатаваныя вырэзываньнем з шэрсьцянога вайлаку—трыццаць сем рублёў трыццаць пяць капеек.

Шэрсьцяныя тканіны, асобна неназваныя тканіны, утрымліваючыя у фунту меньш 2 кв. арш.—семдзесят чатыры рублі шэсьцьдзесят пяць кап.

Тканіны, утрымліваючыя у фунту ад 2-х да 3-х кв. арш.—сто дванаццаць рублёў.

Тканіны, утрымліваючыя у фунту 3 кв. арш. і больш, а таксама тканіны усякае вагі, прыгатаваныя з фасоннай пражы—сто пяцьдзесят восем рублёў шэсьцьдзесят пяць капеек.

Прывадныя рамяні з вярблюжай шэрсьці—дваццаць тры рублі трыццаць пяць кап.

Нясконченыя шэрсьцяныя палотны дзеля фабрычнага ужываньня—восемнаццаць рублёў шэсьцьдзесят пяць капеек.

Шэрсьцяныя каўры усякія каўровыя матэр'ялы, утрымліваючыя у фунту ня больш $^{1}/_{5}$ кв. арш—пяцьдзесят шэсьць рублёў.

Фескі, шэрсьцяныя, вышытыя блёсткамі і бяз іх са штукі—сто дванаццаць руб.

Вязаныя, плеценыя і басоныя вырабы: вязаныя вырабы хоць бы і з знакамі шыцьця: шаўковыя і паўшаўковыя—дзьвесьце восемдзесят пяць руб.

Басоныя вырабы, як: шнуркі, цесьмы, аграманты, махры, кутасы, гарнітуры і г. п., а таксама пляцёныя вырабы, ня маючыя гатунку карунак ажурна-узорнага спляценьня: а) шаўковыя і паўшаўковыя—дьвесьце трыццаць тры рублі трыццаць пяць капеек, б) усякія асобна неназваныя—пяцьдзесят шэсьць рублёў.

Туль ў кусках і асобных адрэзах, асобна неназваны, папяровы, гардзіны, узорчаты—семдзесят чатыры рублі шэсьцьдзесят пяць капеек.

Усякі асобна неназваны—дзевяноста тры рублі трыццаць пяць капеек.

Карункі і пляцёныя вырабы, маючыя гатунак карунак ажурна-узорчатага спляценьня: шаўковыя і паўшаўковыя—дзевяцьсот трыццаць тры рублі трыццаць пяць капеек.

Усякія асобна неназваныя—дзьвесьце тры рублі трыццаць пяць капеек.

Вышыўкі, вышытыя тканіны і туль: 1) шаўковыя з прымешкай шоўку, золата, серабра, мішуры—трыста дваццаць шэсьць рублёў шэсьцьдзесят пяць капеек, 2) усякія апрача названых у п. 1 гэтага артыкулу, вышытыя шоўкам, золатам і мішурой—сто сорак рублёў.

Вышытыя простымі матэр'ямі—семдзесят чатыры рублі шэсьцьдзесят пяць капеек.

11. Даручыць Наркамфіну гэту пастанову ўвесьці ў дзейнасьць па тэлеграфу.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

26 Ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 72. Аб павялічэньні канцэлярскага збору.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

1. Зьменаю пастановы УЦВК і СНК ад 2-га ліпеня 1923 году („Изв. ВЦИК“ ад 6-га ліпеня 1923 г., № 149) канцэлярскі збор павялічыць з трох да пяці рублёў за старонку тэксту.

2. Новую вялічыню канцэлярскага збору увясьці ў дзейнасьць па тэлеграфу.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

26 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 73. А павялічэньні ставак простага гэрбавага збору.

Зьменаю пастановы ад 2-га ліпеня 1923 г. („Известія ВЦИК“ ад 6 ліпеня г.г. № 149) Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

1. Стаўкі простага гэрбавага збору, устаноўленыя пастановаю УЦВК і СНК ад 2-га ліпеня, павялічыць наступным чынам:

з 50 р. да 80 р.
з 30 р. „ 50 р.
з 10 р. „ 15 р.

Стаўку ж у 5 рублёў пакінуць у ранейшай велічыні.
Даручыць Наркамфіну новыя стаўкі ўвясьці ў дзейнасьць па тэлеграфу.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

26 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 74. Аб павялічэньні коэфіцыэнта дзеля транспартных тарыфаў.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

1. Устанавіць на тэрмін з 1 па 15 жніўня г.г. уключна дзеля вылічэньня платы за праезд пасажыраў па чыгункам коэфіцыэнт—100, дзеля вылічэньня платы за правоз багажу і грузаў па чыгункам, а таксама вялічыню дадатковых і іншых збораў, ўзысківаемых на тых жа дарагах,—коэфіцыэнт—130.
2. Гэту постанову увясьці у дзейнасьць па тэлеграфу.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справоу СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

27 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 75. Аб парадку прыастаноўкі дазволу камунальных і тэлефонных прыслугаў дзяржаўным установам.

У дадатак дэкрэту Саўнаркому ад 29-га траўня 1922 году „Аб мерах проціў няўзносу платы за прыслугі прадпрыемстваў камунальнага характэру і негаспадарчага карыстаньня імі (З. У. 1922 г., № 35, арт. 416) і дэкрэту ад 2 чэрвеня 1922 г. „Аб передачы тэлефонных артыкулаў народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў на гаспадарчую памеркацыю“ (З. У. 1922 г., № 39, арт. 455),—Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Зачыненьне вадаправоду, электрычнасьці і газу, а гэтак сама і выключэньне тэлефонаў дапушчаецца ў адносінах да установаў, якія знаходзяцца на дзяржаўным бюджэту толькі пасьля двухразовай перасьцярогі на паперы наспраўнаму спажыўніку. Працяг часу паміж першай і другою перасьцярогай павінен быць ня меньш 2-х тыдняў; за тры дні да фактычнага зачыненьня аб маючай быць меры пасылаецца паведамленьне ў прэзыдыум мясцовага выканаўчага камітэту. Дзеля прадпрыемстваў, непасрэдна падведамственных наркаматам і цэнтральным упраўленьням, аб зачыненьні, якое будзе, паведамленьне пасылаецца за 7 дзён наркамату або упраўленьню.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

31 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 76. Аб пашырэньні на параходцтва па Лене льготаў па соцыяльнаму страхаваньню.

Савет Народных Комісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

Пашырыць на параходцтва па р. Лене дадзеную народным камісарыятам шляхаў зносін дзяржаўнаму аб'яднаньню «Лензолата» дзейнасьць пастановы УЦВК і СНК ад 12/VIII г. г. аб льготным тарыфу узносаў на соцыяльнае страхаваньне, ў вялічыні, згодна п. 2-га пастановы і аб ануліраваньні, на падставе пункту 3-га пастановы, запазычаннасьці па страховым узносам.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

31 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 77. Аб з'іначаньні ў палажэньні аб вэксалях.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Унёсьці ніжэйпаказаныя зьмены у палажэньне аб вэксалях (З. У. 1922 г., арт. 285);

**1.** Пункт «в» арт. 2-га выкласьці наступным чынам:

«Не абмяжаванная ніякімі умовамі і аговоркамі абавязальнасьць вэкселедацеля зрабіць выплату вядомай сумы грошаў, напісанай пропісьсю і выказанай або ў залатых рублях або чырвонцах, або ў савецкіх грашовых знаках, або у чырвонцах банковымі бялетамі дзяржаўнага банку».

**2.** Арт. 3-і выкласьці наступным чынам:

«Арт. 3. Выплата па вэксалю, за выключэньнем тых выпадкаў, калі вэксальная сума выказана у чырвонцах банковымі бялетамі, вядзецца ў савецкіх грашовых знаках, і ў тых выпадках, калі вэксальная сума выказана у залатых рублёх або чырвонцах, вылічаецца па офіцыяльнаму курсу дня, які йдзець перад днём выплаты. Па вэксалям, пісаным закардонам у замежнай валюце з выплатай у межах Саюзу ССР, таксама па вэксалям, пісаным у межах Саюзу ССР з выплатай закардонам, прад'яўляемым да выплаты у межах Саюзу ССР, вэксальная сума пераводзіцца у савецкія грашовыя знакі па офіцыяльнаму курсу. Выплата па вэксалю, выказанаму у чырвонцах банкавымі бялетамі, вядзецца ня інакш, як чырвонцамі у банковых жа бялетах.

**3.** У арт. 14, 15 і 17 усюды пасьля слоў у залатых рублях дабавіць: «і ў чырвонцах банкавымі бялетамі дзяржаўнага банку»; словы ж: «валюта, маючая хаджэньне у межах Савецкай Фэдэрацыі» замяніць словамі: «Савецкія грашовыя знакі».

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

31 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ

# Савету Працы і Абароны

## Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

### 78. Аб кіраўніцтвах чыгунак.

(Дзеля адмены налажэньня ад 31 траўня 1922 г.—З. У. 1922 г., арт. 444).

#### I. Мэта установы кіраўніцтваў чыгунак.

**Арт. 1.** Дзеля ўвядзеньня на транспарту пачаткаў гаспадарчага разьлічэньня, упарадкаваньня тэхнічнай эксплёатацыі, паляпшэньня фінансавай і камэрцыйнай працы шляхаў—эксплёатацыя особных шляхаў або групаў іх можа ўскладацца на кіраўніцтвы шляхаў, устаноўліваемыя і дзеючыя згодна гэтае пастановы.

#### II. Парадак установы кіраўніцтваў і іх дзеяльнасьці.

**Арт. 2.** Кіраўніцтвы устаноўліваюцца на особных шляхах або групах іх пастановамі СПА па рэкамэндацыі НКШЗ.у.

Час і парадак адчыненьня дзеяў кіраўніцтваў і іх месцазнахаджэньня устаноўліваюцца НКШЗ.

Увага: Пастанова СПА аб установе кіраўніцтваў публікуецца ў „Известиях ЦИК Союза ССР і ВЦИК» і «Зб. Узак. і Загад. Кіраўніцтв».

**Арт. 3.** Кіраўніцтвы зьяўляюцца паўнамоцнымі і адпаведнымі органамі, ведаючымі цалкам эксплёатацыей перадаваемых у іх веданьне шляхаў. Дзеля ажыцьцяўленьня ускладзеных на іх абавязкаў кіраўніцтва мае неабходны рабочы апарат, у тым ліку управу шляху, якая з'яўляецца выканаўчым органам кіраўніцтва, загадываючым адміністратыўнай і тэхнічнай часткай эксплёатацыі шляхаў.

Увага: Разьдзяленьне функцыяў паміж управамі і рэштай рабочага апарату кіраўніцтва—рэгуліруецца бліжэйшым чынам інструкцыяй, выдаваемай НКШЗ.

#### III. Правы і абавязкі кіраўніцтваў.

**Арт. 4.** Кіраўніцтвы чыгунак, даючы сабой падлегаючыя чыгункі або групы шляхаў, як самастойныя гаспадарчыя адзінкі, могуць набываць правы па маемасьці, ўступаць у абавязнасьці, шукаць і адказываць на суду на агульных падставах, устаноўленых для дзяржаўных органаў карыстаючыхся правамі юрыдычных асобаў.

**Арт. 5.** На кіраўніцтвы ўскладаецца:

а) эксплёатацыя даручэных ім шляхаў са ўсімі іх успаможнымі і падсобнымі прадпрыемствамі;

б) вышуківаньне мераў да падняцьця прыбытковасьці шляхаў;

в) складаньне і дача на зацьверджаньне НКШЗ агульнага пляну работ па эксплёатацыі шляхаў і прыходна-расходных каштарысаў і штатаў;

г) арганізацыя і загадываньне усякага роду подсобнымі прадпрыемствамі тэхнічна-гаспадарчага характару;

д) загатоўка і здабываньне неабходных для дарог матар'ялаў, інструмэнтаў, топліву і інш;

е) арганізацыя і разьвіцьцё сувязі з прамысловымі прадпрыемствамі і органамі, рэгуліруючымі народную гаспадарку;

ж) печа аб свачасовым снабжэньні шляхаў грашовымі рэсурсамі;

з) распрацоўка і ажыцьцяўленьне пляну адбудаваньня і паляпшэньня шляхаў праз паляпшэньне і разьвіцьцё гаспадарча-камэрцыйнага і тэхнічнага боку яго дзеяльнасьці;

і) заключэньне калектыўных умоваў са служачымі і рабочымі шляхаў у межах правоў, дадзеных народным камысарыятам шляхаў зносін;

к) складаньне справаздачаў і балансаў і падача іх у НКШЗ.

**Арт. 6.** У мэтах ажыцьцяўленьня ускладзеных на Кіраўніцтвы абавязкаў арт. 5, ім даюцца наступныя правы:

а) адтрымовываць і расходаваць каштарысныя сумы;

б) самастойна перасуваць прадугаданыя каштарысамі грашовыя і матэр'яльныя рэсурсы, у межах, устаноўленых НКШЗ;

в) запазычацца у крэдытных і др. установах, прычым агульная вядомая вялічыня крэдытаваньня устаноўліваецца дзеля кожнага кіраўніцтва НКШЗ;

г) загадываць у межах, паказаных НКШЗ, даходам шляху і павялічаньнем даходных паступленьняў над каштарыснымі гадкамі:

д) устаноўліваць мясцовыя тарыфы, згодна дзеючых на гэты прадмет правілаў;

е) здаваць ў арэнду асобныя прадпрыемствы шляху;

ж) вясьці на гаспадарча — камэрцыйных пачатках распрацоўку і загатоўку необходных дзеля патрэбаў эксплёатацыі шляху топліву і матэр'ялаў;

з) арганізаваць і арэндаваць усякага роду падсобныя прадпрыемствы, маючыя мэтай абслугоўваньне патрэбаў шляху;

і) ўступіць пайшчыкамі у аб'яднаньні шляхаў, маючыя мэтай зрабіць таньней загатоўкі і закупкі неабходных шзяхам прадметаў і матэр'ялаў.

> Увага: Права ўступаць пайшчыкамі у гандлёва-прамысловыя прадпрыемствы дапушчаецца выключна з дазваленьня НКШЗ, пры ўмове адумысловых дзеля гэтага крэдытаў, скарыстаньня сродкаў, прадугаданных п. «г» арт. 6, абавязковай па гэтаму асобнай справаздачай;

к) рэалізаваць праз прадажу або тавараабмен лішку прадукцыі абслугоўваючых шлях успаможных прадпрыемстваў, а таксама нягодную або непатрэбную эксплёатацыйную маемасьць шляху з захаваньнем правілаў палажэньня аб зваротным капіталу;

л) страхаваць маемасьць шляху;

м) назначаць і звальняць служачых, апрача асобаў, назначаемых ясяродкам, перадаручаючы назначэньне і звальненьне малодшых катэгорыяў служачых адпаведным агентам;

н) прызначыць вялічыню утрыманьня, дапамогаў і наградных прэміяў і інш. у межах зацьверджаных каштарысаў і расцэнкі, у залежнасьці ад вынікаў працы шляху;

о) мець пячатку з надпісам: «Кіраўніцтва вядомага шляху»;

п) непасрэдных зносінаў па справам шляхаў з усімі установамі Саюзу ССР праз ўстаноўлены законам парадак.

### IV. Маемасьць і сродкі кіраўніцтваў.

**Арт. 7.** У загад кіраўніцтваў аддаецца ўся маемасьць, належачая шляхам і прадпрыемствам, якая знаходзіцца у іх веданьні і належачая занясеньню ў інвэнтар.

**Арт. 8.** Сродкі кіраўніцтваў складаюцца з:

а) аснаўнога капіталу:

б) зваротнага капіталу;

в) зваротных сродкаў.

**Арт. 9.** Аснаўны капітал кіраўніцтваў прызначаецца каштоўнасьцю інвэнтарнай маемасьці і абарудаваньня чыгуначных ліній і прадпрыемстваў, якія знаходзяцца у іх веданьні.

**Арт. 10.** Зваротны капітал складаецца:

а) з каштоўнасьці запасаў матар'ялаў, топліву і прадметаў необходных дзеля чыгуначнага транспарту;

б) адумысловых сумаў, адпушчаемых дзеля утварэньня зваротнага капіталу (Гл. Часовае Палажэньне аб зваротных капіталах чыгунак НКШЗ ад 10 ліпеня 1923 г.— «Известия Союза ССР и ВЦИК" ад 24 ліпеня 1923 г.).

**Арт. 11.** Зваротныя сродкі складаюцца з каштарысных і дадатковых асігнаваньняў і сродкаў, адтрымліваемых кіраўніцтвамі праз пазыкі, ссуды і інш., а таксама:

а) сродкаў, пакідаемых у загадзе кіраўніцтваў, згодна п. «г», арт. 6:

б) даходаў ад успаможных прадпрыемстваў і іншых опэрацыяў.

**Арт. 12.** Вялічыня штогодных каштарысных асігнаваньняў прызначаецца складаемым кіраўніцтвамі прыхода-расходным каштарысам, каштарыс гэты складаецца па дадзенай НКШЗ форме і належыць зацьверджаньню устаноўленым парадкам.

### V. Склад кіраўніцтваў і парадак іх справаў.

**Арт. 13.** Старшыня кіраўніцтва зацьверджаецца СПА па рэкамэндацыі НКШЗ. Ён жа зьяўляецца ўпоўнаважаным народнага камісара шляхаў зносін.

Сябры кіраўніцтва назначаюцца народным камісарам шляхаў зносін.

У склад кіраўніцтва ўваходзіць у якасьці сябра кіраўніцтва, які загадывае тэхнічнай эксплёатацыяй, назначаемы НКШЗ—начальнік шляху.

Апрача гэтага ў кіраўніцтва ўваходзіць прадстаўнік ад НКФ з нарадчым голасам.

**Арт. 14.** На начальніка шляху ускладаецца таксама дагляд за выкананьнем ўрадавых загадаў, належачых да тэхнічнага утрыманьня шляху і яго пабудовак, і правілаў, рэгуліруючых безнебясьпеку руху.

> Увага: Правы, абавязкі і адпаведнасьць перад НКШЗ і Кіраўніцтвам начальніка шляху па тэхнічнай і эксплёатацыйнай часцы регуліруецца асобнай інструкцыяй.

**Арт. 15.** Лік сяброў і склад кіраўніцтва прызначаецца НКШЗ у залежнасьці ад эканамічных умоваў і характару раёну шляхаў, знаходзячыхся у веданьні кіраўніцтва, а таксама ад вялічыні і характару працы шляхаў і іншых мясцовых умоваў.

**Арт. 16.** Падлягаючыя развязваньню кіраўніцтва справы і пытаньні разглядаюцца на пасяджэньнях кіраўніцтва. Пасяджэньні кіраўніцтва назначаюцца старшынёй кіраўніцтва па патрэбнасьці, але не радзей аднаго разу ў тыдзень.

**Арт. 17.** Кожны сябра кіраўніцтва нясець вядомыя абавязкі, згодна устаноўліваемага кіраўніцтвам размяркаваньня.

**Арт. 18.** Разважаньні кіраўніцтва пастаноўліваюцца большасьцю галасоў прысутнічаючых. У выпадку роўнасьці галасоў, голас старшыні дае перавагу. У выпадку нязгоды начальніка шляху з пастановаю кіраўніцтва, датычнай сфэры кампэтэнцыі начальніка шляху, апошнему даецца права вымагаць занясеньня свайго памяркаваньня у пратакол, гэта разнагалосьсе кіраўніцтва павінна падаць у НКШЗ у 3-х тыднёвы тэрмін.

**Арт. 19.** Пастановы кіраўніцтва прыводзяцца да выкананьня загадам старшыні кіраўніцтва, на якога ускладаецца агульны кірунак працай кіраўніцтва, прычым у выпадку нязгоды старшыні з голасам бальшасьці, старшыні даецца права затрымаць выкананьне пастановы кіраўніцтва і даць пытаньне, у 3-х дзённы тэрмін, на канчатковае развязваньне НКШЗ. У неадкладных выпадках старшыня кіраўніцтва, не чакаючы канчатковага развязаньня пытаньня НКШЗ, робіць па ўласнаму погляду за сваёй аднаасобавай адпаведнасьцю, даводзячы аб тым адначасна да вядомкі НКШЗ.

**Арт. 20.** Вялічыня і парадак вынагарады старшыні і сяброў кіраўніцтва, гэтак жа і падставы дзеля выдачы ім танцьемаў устаноўліваюцца НКШЗ у межах дзеючых каштарысаў і правілаў.

**Арт. 21.** Пры кіраўніцтве павінна быць арганізавана эканамічная нарада склікаемая ня меньш аднаго разу у 3 м-цы з прадстаўнікоў Краін. і Губ-Экнар, органаў прамысловасьці і сельскай гаспадаркі буйнейшых трэстаў і г. п. Пералік установаў, маючых прадстаўнікоў у эканамічных нарадах, зацьверджаецца НКШЗ па падачы кіраўніцтва. У абавязкі эканамічнае нарады ўваходзіць:

1) азнаямленьне з патрэбамі шляху;

2) выяўленьне патрэбаў прамысловасьці і сельскай гаспадаркі:

3) разгляд способаў дзеля зgоднасьці дзеяльнасьці транспарту з патрэбамі прамысловасьці і сельскай гаспадаркі.

Парадак работы нарады прызначаецца асобным палажэньнем, выдаваемым НКШЗ.

**VI. Аб аб'яднаньнях і прадстаўніцтвах кіраўніцтваў.**

**Арт. 22.** Кіраўніцтвам даецца права арганізаваць і ўступаць сябрамі у бюро, саветы і іншыя аб'яднаньні, утвараемыя у мэтах выяўленьня запросаў і патрэбаў гаспадарчых транспартных адзінак і дапамаганьня разьвіцьцю і паляпшэньню як транспарту, гэтак і народнае гаспадаркі рэспублікі наогул, а таксама прынімаць удзел у з'ездах, чапаючых інтарэсы транспарту.

**VII. Нагляд НКШЗ за дзеяльнасьцю кіраўніцтваў.**

**Арт. 23.** Дзеяльнасьць кіраўніцтваў рэгуліруецца і кантраліруецца НКШЗ, якому яны непасрэдна павінуюцца.

> Увага: Сыстэма зносін НКШЗ і яго упраўленьняў і аддзелаў з кіраўніцтвамі і іх упраўленьнямі і аддзеламі рэгуліруецца асобнай інструкцыяй, выдаваемай НКШЗ.

**Арт. 24.** Кіраўніцтвам даецца права не затрымовываючы выкананьня загадаў НКШЗ, падаваць яму свае спрэчкі па гэтым загадам.

**Арт. 25.** Пры выкананьні сваіх абавязкаў кіраўніцтвы кіруюцца гэтым палажэньнем і выдаваемымі ўрадам і НКШЗ інструкцыямі, правіламі і загадамі.

**Арт. 26.** Усе кіраўніцтва цалкам, а таксама сябры яго па-асобку нясуць адпаведнасьць за справу, ня толькі у адміністратыўным парадку, але й па суду.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

26 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 79. Аб выдачы чыгуначных сертыфікатаў.

Дзеля павялічэньня зваротных сродкаў народнага камысарыяту шляхаў Савет Працы і Абароны **пастанаўляе:**

1. Народнаму Камісарыяту шляхаў дазваляецца выдаць бязпроцэнтныя пазыковыя абавязацельствы (транспартныя сертыфікаты) сэрыямі па 1 мільёну рублёў кожная на суму да 5-ці міл. рублёў зол. З простым поўным патушэньнем праз прыняцьце у выплату або выкуп да 1-га сакавіка 1923 г.

2. Патушэньне сертыфікатаў забясьпечваецца усімі даходамі чыгунак і вадзянога (марскога і рачнога) транспарту і гарантыяю народнага камысарыяту фінансаў.

3. Сертыфікаты павінны прымацца ў аплату пасажырскіх, багажных і грузавых перавозак і іншых прыслугоўваньняў чыгунак і вадзянога (марскога і рачнога) транспарту.

4. Рэалізацыя сертыфікатаў робіцца народным камысарыятам фінансаў і народным камысарыятам шляхоў непасрэдна праз іх установы, праз пазычковыя установы і фондавую біржу.

Пры прыняцьці у выплату і пры патушэньні разьлічэньне робіцца па курсу залатога рубля, апрадзельваемаму котыравальнаю камісіяю.

5. Сертыфікаты, пададзеныя у чыгуначныя касы ў выплату за прыслужваньне могуць да 31 студзеня 1924 году ізноў пускацца у ход.

6. З 1-га лютага да 1-га сакавіка сертыфікаты могуць падавацца у чыгуначныя касы як у плату за робленыя чыгункамі прыслугоўваньні гэтак і дзеля іх аплаты грашамі.

Сертыфікаты выдаюцца вартасьцю да 25 руб. золатам па згодзе НКШЗ і НКФ.

7. Падрабязковыя правілы аб парадку і способу патушэньня сертыфікатаў апрадзельваюцца асобнаю інструкцыяю, выпрацоўваемаю па згодзе НКГС і НКШЗ.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Каменеў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

26 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

Тираж 5.000 Главлит. № 12726.

„Мосполиграф"—20-я типография „Красный Пролетарий", Пименовская ул., 1/16.

# ВЫДАНЬНІ ЦВК САЮЗУ ССР.

**НА РАСЕЙСКАЙ, УКРАІНСКАЙ, БЕЛАРУСКАЙ, ГРУЗІНСКАЙ, АРМЯНСКАЙ и ТЮРКА-ТАТАРСКАЙ МОВАХ.**

1. Першы з‘езд саветаў Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача (*з дыяграмамі і статыстычнымі дѳвадамі*).
2. Пастановы 1 з‘езду саветаў Саюзу ССР.
3. I сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).
4. II сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).
5. Весьнік рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР (*двухтыднёвік*). *№№ 1 і 2.*

АДРАС ВЫДАВЕЦТВА:
МАСКВА—КРЭМЛЬ—ЦВК САЮЗУ ССР.
ТЭЛЕФОНЫ: Крэмль, дадатк. 1-27 і гарад. 19-92.

ПРАДАЖА ВЫДАНЬНЯЎ ВЯДЗЕЦЦА
ПРАЗ ЮРЫДЫЧНАЕ КНІГАВЫДАВЕЦТВА НКЮ.
МАСКВА, Раждзественка, 9.